# Тыднёвік Магілёўскі




№ 36 (100) 15-21 верасьня 2000 г. Кошт 50 руб.

## Рада Беларускай асацыяцыі журналістаў:

– Шаноўныя калегі, БАЖ віншуе Вас з выпускам сотага нумару "Тыднёвіка Магілёўскага!"

Газэта, якая пачалася ў 1997 годзе з 500 асобнікаў, энтузіязму і веры ў свабоду слова нашых калег, за тры гады існаваньня значна вырасла: у чатыры разы павялічыла наклад, стварыла штат супрацоўнікаў, сабрала вакол сябе кола аўтараў, наладзіла карэспандэнцкую сетку. Сёньня "ТМ" прадаецца ў кожным раёне вобласьці.

"Тыднёвік Магілёўскі" – адна зь вельмі нешматлікіх газэт у Беларусі, якая нязьменна друкуецца па беларуску. Беларускае бачаньне сьвету, беларуская інтэрпрэтацыя падзеяў – адметная рыса "Тыднёвіка" і вельмі каштоўная яго якасьць.

Нам вельмі дарагая прынцыповая "некалябарацыйнасьць" "Тыднёвіка", яго імкненьне прыўзьняцца над будзённасьцю, несучы грамадзтву цяпло веры ўва ўсё яшчэ не завяваныя, але такія жаданыя – Незалежнасьць і Дэмакратыю.

Жадаем "ТМ" посьпехаў і прафэсыйнай вытрымкі, любові і прызнаньня чытачоў, і новых сотых юбілеяў.

## ...Не да самоты – калі з вамі сябры і паплечнікі!



Калаж Д. Новікава.

*У першым нумары газэты ў сакавіку 1997 мы з сумам і горыччу адзначалі, што гістарычны Час у нашай краіне нібы спыніўся, а тое і вяртаецца назад. Каб паскорыць рух грамадзтва да сьветлых думак, патрыятычных пачуцьцяў і высакародных дзеяньняў, мы й распачалі выданьне.*

*Ня так шмат, на жаль, зьмянілася за апошнія тры гады ў стане краіны. Ды й нялёгкая гэта справа – пераасэнсаваньне жыцьця, тым больш пры ўмовах неспрыяльных, якія захоўваюцца, "дзякуючы" стараньням улады і абыякавасьці многіх людзей...*

*Але фізычны час ідзе, нават бяжыць: вось ужо перад вамі 100-ты нумар "ТМ". У кожным зь іх мы імкнуліся трымаць слова, дадзенае ў першым: паведамляць праўду, спрыяць нацыянальнаму адраджэньню, бараніць чалавека. Прыемна, што гэтыя высілкі не прайшлі дарэмна, бо газэта набыла сябраў і паплечнікаў, многія зь якіх цяпер самі жывуць клопатамі выданьня, спрыяюць яму як могуць.*

*За тое – дзякуй! Падумалася, няхай убачаць тыя чытачы хаця б некаторых з тых, без каго выданьне наўпрост было б немагчымае. Прыемна ў такі дзень назваць сябраў паймення: Віталь Васількоў, Валадар Цурпанаў, Алесь Асіпцоў, Андрэй Кузьмін, Тацяна Копец, Міхась Карпечанка, Віктар Суднік, Васіль Аўраменка, Лявон Сьвецік, Сяржук Аржанцаў, Аляксандар Шчарбак, Ігар Пушкін, Саша Гжэльская, Віктар Каралькоў, Аляксандар Ліцін, Дзяніс Новікаў, Ігар Кірын, Уладзімер Краўчанка, Дзяніс Мельянцоў, Андрэй Кавалёў...*

*І яшчэ адна ўдзячнасьць. Тым, хто заўважыў наш сьціплы юбілей і адрасаваў рэдакцыі свае віншавальныя словы (яны друкуюцца ў гэтым нумары).*

*...Адмеціна ў 100 нумараў падала нам сёньня магчымасьць толькі кароткага сьвяточнага зупынку на шляху.*

*Шлях працягваецца.*

*З надзеяй на ягонае доўжаньне –*

*да Перамогі,*

***Ваш "Тыднёвік".***

СУДОВАЕ РЭХА ДНЯ ВАЙСКОВАЙ СЛАВЫ

## 150 мінімалак за павагу да гісторыі

Восьмага верасьня, у Дзень Беларускай вайсковай славы, некалькі сьвядомых магілёўцаў, што не паехалі гэтым разам пад Воршу (рэпартажы пра тамтэйшае сьвяткаваньне друкуюцца на 2-й стар.), прайшліся па горадзе, раздаючы вітальныя ўлёткі. Ані арганізаванага шэсьця, ані мітынгу не праводзілася, бо ўлада адмовіла групе заяўнікаў у правядзеньні якой бы ні было імпрэзы. Але рыхтавалася да яе, бо маленькую купку сьвяткуючых суправаджалі нарады міліцыі і нават ОМОНаўскі аўтобус. Міліцыянты і затрымалі пад вечар Анатоля Фёдарава, склаўшы на яго пратакол, як на арганізатара "несанкционированного шествия".

З панядзелка распачаўся Цэнтральны суд у асобе спадарыні Тумілінай. Спатрэбілася тры паседжаньні (апошняе было ў сераду), каб вынесьці прысуд, якога лідэр абласных фронтаўцаў і ягоныя прадстаўнікі чакалі ад самых першых хвілінаў судовай размовы: 150 мінімалак штрафу. Не дапамаглі блытаныя і бяздоказныя сьведчаньні міліцыянтаў, якія нават не маглі патлумачыць, чаму менавіта А.Фёдарава яны палічылі за галоўнага арганізатара "парушэньня" (дарэчы, ягонага прозьвішча няма ў заяўцы на грамадзкае сьвяткаваньне). Дарэмна тлумачылі сьведкі з боку падсуднага. Дарэмнымі былі ўказаньні ягоных прадстаўнікоў на шмат якія нестыкоўкі ў справе...

На думку А.Фёдарава, ягоны прысуд быў вызначаны загадзя, бо мае ў сваім грунце палітычную матываванасьць. Што рабіць, калі сп.Туміліна ня ведае, не разумее і ня любіць падзеяў, датаў і фактаў беларускай гісторыі. Лепш адзначалі б, як заўважыла яна падчас аднаго з паседжаньняў, 9 мая! Дык не, прыдумалі нейкую бітву пад Воршай...

Прадстаўнікі падсуднага і ён сам не пагадзіліся з прысудам, бо ня бачаць у паводзінах людзей і А.Фёдарава асабіста ніякага злачынства ці правапарушэньня. Было вырашана абскардзіць у абласны суд гэтае рашэньне на падставе многіх фактаў, уключна з тым, што судзьдзя парушала працэдуру паседжаньняў, дакладна пазначаную ў законе.

***Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК па праблемах права***

*Джын МАКЭНЗІ, дырэктарка праграмы IREX-Promedia:*

*– Я жадаю газэце, каб тыя ідэі, якія "Тыднёвік" адстойвае і распаўсюджвае, мелі як мага больш падтрымкі ў грамадзтве.*

Дз.АБАДОЎСКІ: ДРУГОЕ СЛУХАНЬНЕ

## Тыдзень нечаканасьцяў

Нечакана для падсудных Дз.Абадоўскага і А.Новікава суд на пачатку тыдня пачаў чытаньне судовага абвінавачваньня і матэрыялаў справы. Да гэтай працэдуры патрэбная адказная падрыхтоўка з боку ўдзельнікаў працэсу, тым больш – падсудных і ягоных абаронцаў. Яны заявілі пратэст і хадайнічалі аб перапынку ў працэсе. Перапынак цягнуўся нядоўга, чытаньне працягнулася ў чацьвер.

Тым часам для суда і наогул праваахоўчых структураў тыдзень таксама пачаўся зь нечаканасьці. У "Белорусской деловой газете" за сераду надрукаваны матэрыял, які яскрава сьведчыць пра недапушчальную "мэтодыку і тэхналёгію" здабываньня работнікамі гэтых самых структураў доказаў і пакаваньняў па справе. Абаронцы хлопцаў, якія зараз на лаве падсудных, тэрмінова зьвярнуліся ў адпаведныя інстанцы з надзеяй павярнуць і сваю справу ў адваротны бок.

Пачакаем разьвіцьця гэтых нечаканых падзеяў. А тым часам прэзэнтуем згаданы артыкул з "БДГ", які падаем **на 7-й стар.**

***Уласная інфармацыя***

## Сяргей АБАДОЎСКІ, дырэктар Магілёўскага праваабарончага цэнтру:

– Віншую калектыў рэдакцыі "ТМ" з цудоўным юбілеем – выхадам 100-га нумара газэты! Мы, праваабаронцы, заўсёды адчувалі вашую падтрымку. І тады, калі вашыя карэспандэнты прыходзілі асьвятляць нашыя "гучныя" і "нягучныя" судовыя разьбіральніцтвы; і тады, калі вы ставілі ў нумар самы востры праваабарончы матэрыял. Дзякуючы вашым злабадзённым публікацыям, людзі даведваюцца пра нашых мясцовых "герояў", якія парушаюць правы чалавека. Да таго ж, газэта друкуе яшчэ шмат якой прававой інфармацыі, і ў гэтым яна ёсьць абразчыкам для іншых незалежных СМІ – у тым, як трэба весьці асьветную дзейнасьць у галіне правоў чалавека. Посьпехаў вам у вашай высакароднай працы!

# У дзясяты раз на тым жа месцы

У ноч на 10 верасьня адбылася традыцыйная "Аршанская бітва" у знак адзначэньня Дня Беларускай вайсковай славы і ў памяць продкаў, якія амаль 500 гадоў таму спынілі агрэсыўны паход рускіх ваяроў на нашую Бацькаўшчыну. Дзесяць гадоў запар на гэтым месцы, ля вусьця рачулкі Крапіўны, ладзіцца патрыятычнае сьвяткаваньне. Гэтым разам больш за 300 чалавек, у асноўным маладых, з розных рэгіёнаў краіны сталіся гледачамі і ўдзельнікамі фэсту.

Пачаўся ён з набажэнства ў памяць колішніх герояў, якія ахвяравалі жыцьцём дзеля Волі. На жаль, у рэлігійнай дзее прынялі ўдзел толькі каталіцкія сьвятары, пры тым, што большасьць загінуўшых падчас Аршанскай бітвы (дарэчы, з абодвух бакоў) былі праваслаўнымі. Затым, зноў жа – традыцыйна – фэстываль працягнуў канцэрт бардаў, падчас якога выступілі выканаўцы аўтарскай песьні з Магілёва, Гомлі, Менску і Полацку, а таксама фальклёрны гурт з Воршы.

Далей распачаўся рыцарскі турнір, дзе ў двубоі сустрэліся рыцары клюбаў "Чорныя драбы" і "Рыцары Вялікага Княства Літоўскага". Бітва атрымалася ледзь не сапраўднай – цікавай, адчайнай і жорсткай, але, на шчасьце, абыйшлося драпінамі і гузакамі...

Своеасаблівым цьвіком фэсту стаўся пэрфоманс Алеся Пушкіна. Гэтым разам вядомы мастак пры дапамозе жывой вады выклікаў на спатканьне з сучаснікамі старадаўніх ваяроў. Адну з чатырох постацяў яму ўдалося ажывіць. На жаль, тры астатнія так і засталіся нерухомымі ў сваіх закамянелых целах.

Але ж галоўнай нечаканасьцю было зьяўленьне на фэсьце атраду ваенна-спартовай арганізацыі "Край". Краёўцы, асьвятляючы шлях паходнямі, зваліліся нібы зь неба й пасьля зладжанай дэманстрацыі сваіх фізычных практыкаваньняў і вайсковых прыёмаў, зьніклі ў начы – таксама, як і зьявіліся.

Падчас фэсту адбылася прэзэнтацыя кнігі Зьміцера Яцкевіча "Малы гербоўнік наваградзкай шляхты", былі наладжаныя шматлікія знаёмствы між прадстаўнікамі розных рэгіёнаў. Усю ноч паліліся вогнішчы, гучалі сьпевы і ладзіліся гульні й танцы. Воклічы "Жыве Беларусь!" час ад часу абуджалі навакольную прастору.

Фэст прайшоў безь непрыемнасьцяў, невялікая група міліцыянтаў адкрыта сумавала бяз працы. Толькі нейкія неасьцярожныя хлопцы зваліліся з адкосу, як былі – у вопратцы – у раку, аднак не пацярпелі й толькі сталіся аб'ектамі нязлых жартаў.

Так бы заўсёды. Сьвятыя традыцыі нічым нельга псаваць.

*Васіль АЎРАМЕНКА*



# Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

**На сэсіі абласнога савету Міхаіл Дражын заявіў, што "народная гаспадарка працуе больш пасьпяхова, чым два гады таму". Але акрамя спасылкі на рост вытворчасьці, які склаў 5%, іншых прыкладаў у кіраўніка вобласьці не знайшлося. Аднак на гэты паказчык самі прадпрыемствы глядзяць інакш: на іхных сховішчах і тэрыторыях назапашана сёньня прадукцыі на 30% больш, чым летась. Рэсурсы скарыстаныя, а прыбытку няма. Ну і навошта такі "рост"?**

**Яшчэ амаль 60 мільёнаў рублёў выдаткуюць урад і аблвыканкам на шклоўскія "дажынкі" у дадатак да тых сотняў млн., што былі скарыстаныя мінулым разам. Цяпер многае ў горадзе давядзецца абнаўляць і падфарбоўваць. Гараджане спадзяюцца, што нарэшце Сам прыедзе, каб сьцішылася атмасфэра мітусьні і напругі, якімі шклаўчане жывуць два гады запар. Ад усіх гэтых затратаў і архітэктурных прыгажосьцяў жыцьцё звычайнае не становіцца лепш.**

**Калі б вар'яцтвы чыноўнага глупства не кранalі нашага жыцьця, можа б было не зьвяртаць на тое ўвагі. Аднак не выпадае. Дзяржкантралёры вобласьці дадумаліся да таго, што донарская кроў, прынятая ад безпрацоўных, каштуе таньней, чым ад занятых грамадзянаў. У выніку чарга на здачу крыві скарацілася ўдвая.**

**Па сьведчаньні афіцыйнай статыстыкі, у жніўні, упершыню за апошнія паўтары гады, некаторыя паказчыкі жывёлагадоўлі перасталі зьніжацца. Але. Угадаем, што зараз лета і статку раздольле. Падзеньне адмоўных паказчыкаў цалкам натуральнае. Аднак увогуле галіна падае. Па гадавых выніках малака кароўкі даюць менш, прывагі зьніжаюцца, птушкагадоўля коціцца ўніз. Такім чынам "сельскагаспадарчых цыплятаў" лічыць пажада ўвосень.**

**Бабруйскія лукашэнкаўскія камсамольцы арганізавалі лягер "Экалягічны бастыён". Аднак больш было ў ім "спартова-ваенізаванага". Хаця папрацавалі і на ачысцтцы леса. Тут высакароднае змаганьне за экалёгію скончылася: камсамольцам выплацілі заробак. Дровамі.**

**У абласным цэнтры працуецца па вул. Фаціна найсучасьнейшы супэрмаркет, які будуць будаваць палякі. Для той задняпроўскай зоны магазын вельмі патрэбны. Аднак праблемай будзе рэнтабэльнасьць шыкоўнай крамы і вяртаньне крэдыту. Кошты самі ведаеце якія, а яшчэ лепш ведаеце – якія ў нас заробкі.**

**Калі маці адмаўляецца ад свайго дзіця, гэта прыватны жах. Калі такіх маці шмат, гэта сацыяльная катастрофа. Вось і лічыце, што ў нас. За 8 месяцаў па вобласьці амаль 90 дзетак сталі сіротамі пры жывых фармальных бацьках. Ужо цалкам "перакрытыя" паказчыкі мінулых гадоў. Колькасьць падобных выпадкаў няўхільна расьце з 96-га году.**

**Толькі крыху больш паловы настаўнікаў у Горацкім раёне могуць прад'явіць дыплём аб вышэйшай адукацыі. У грамадзтве паступова ледзь не да нуля ўпаў рэйтынг гэтай прафэсыі. Гэтым летам настаўнікаў пакінулі без адпускных грошай. Працаваць, асабліва на вёсцы, даводзіцца ў "антысанітарных умовах", штодзень мяняюцца мэтадычныя распараджэньні, а тое й перапісваюцца падручнікі. Якіх, дарэчы, не хапае на ўсіх вучняў. Гэтым навучальным годам, напрыклад, дзяржава не пасьпела да верасьня надрукаваць падручнікі па беларускай мове й літаратуры.**

*Да сустрэчы, Сымон Глазштэйн.*

## КРАПІВЕНЬСКАЯ ТРАДЫЦЫЯ

*Так атрымалася, што два нашыя аўтары, не згаворваючыся, прынесьлі ў рэдакцыю свае ўражаньні аб сьвяткаваньні Дня Беларускай вайсковай славы, у якім яны бралі ўдзел на мінулым тыдні. Паважаючы іхнае жаданьне распавесьці пра ўбачанае, "ТМ" вырашыў надрукаваць абодва гэтыя матэрыялы.*



# Такія ж, як мы толькі маладзей

Некалькі гадоў не атрымлівалася наведаць Крапівенскі фэстываль. Ды й чуў некалькі гадоў таму, што традыцыя згасла і згубілася (на фэсьце-98 было ўсяго 13 чалавек). А гэтым разам запрасілі сябры й я наважыўся з сынам пабываць пад Воршай.

Сьвяточны настрой пачаў адольваць адразу па прыезьдзе ў гэты горад. Адначасова з намі на станцыю прыйшла менская электрычка, і ўся плошча адразу расквітнела бел-чырвона-белымі сьцягамі. Дарма, што зь цяжкасьцю ўцicнуліся ў прыгатаваны для гасьцей "Ікарус", іншыя кінуліся да таксовак і прыватнікаў – настрой быў нібы разьліты ў паветры й нішто не магло яго сапсаваць.

Сьвяточнае адчуваньне ўзмацнілася ад вялікай колькасьці людзей, якія ўсё прыбывалі і прыбывалі. Блізу паўтысячы чалавек з самых розных куткоў краіны перадолелі інэртнасьць і ляноту. Нашую вобласьць прадстаўлялі горацкія хлопцы і дзяўчаты, а таксама магілёўская маладафронтаўская каманда. Былі са сваімі харугвамі й нашыя скаўты, а таксама сябры падарожна-гістарычнага клюбу "Чароўны ўспамін".

Пан Госпад у гэты дзень, безумоўна, быў з намі. Начныя дажджы, што пранесьліся амаль над усёй краінай, абмінулі Крапівеньскае поле. Надвор'е дазволіла правесьці ня толькі памінальную па героях імшу, але й шасьцігадзінны бардаўскі марафон, які ўдала прайшлі магілёўцы Васіль Аўраменка, Тацяна Арлова, Сяржук Кулягін. Пасвайму добра вызначыўся таксама Ігар Мухін, які весела і знаходліва вёў бардаўскую праграму. Эмацыйнай вяршыняй бардаўскага канцэрту былі выступы Андрэя Мельнікава і Зьміцера Бартосіка, якіх слухачы ніяк не хацелі адпускаць з імправізаванай сцэны.

Быў рыцарскі турнір. Быў пэрфоманс Алеся Пушкіна. Распавесьці пра Алесеву фантазыю немагчыма, гэта, як гаворыцца, трэба бачыць. Мяне асабіста па сапраўднаму ўразіла чароўнасьць ягонага начнога "ажыўленьня" скульптуры і таемнай жаночай постаці, за якой хавалася ўласная жонка мастака. Як спэцыяльна ў гэты момант на далёкім халме блiснулі агні й сталіся бачнымі праплываючыя нібы па паветры бел-чырвона-белыя сьцягі. Тое рухаліся да нас шыхты патрыятычнай арганізацыі "Край". На месцы краёўцы паказалі прыёмы рукапашнага бою, пахадзілі па накрошаным шкле, паляжалі на ім. Потым навялі парадак "на арэне" і надалей узялі на сябе адказнасьць за парадак на ўсім сьвяце. Усю ноч карагодзілі, сьпявалі, танчылі і гулялі. На раніцу, нікольні ня стомленыя, усе былі на нагах. Пачаліся разьвітальныя гаворкі, абмены адрэсамі, тэлефонамі. З зайздрасьцю думалася: вось яно, новае беларускае пакаленьне, лепшае за нас, большае і здольнае дарабіць тое, што зьдзейсьніць нашаму не ўдалося... Але заставацца "старым" давялося нядоўга, бо нейкія маладыя хлопцы ды дзяўчаты схапілі мяне ў абдымкі і ўцягнулі ў вясёлы і шматлюдны карагод. Толькі й пасьпеў радасна падумаць: гэта наша агульнае сьвята, мы – разам!

...На трэці дзень ад вяртаньня пішу гэтыя радкі з адчуваньнем таго, што пабываў на адной зь лепшых усебеларускіх акцыяў.

*Аляксандар АГЕЕЎ*

*Юры ХАДЫКА, прафэсар, намесьнік старшыні БНФ (В.Вячоркі):*

– Нехта сказаў, што ў нас ёсьць незалежная прэса, але няма апазыцыйнай. Відаць, збольшага так і ёсьць. Я жадаю, каб "Тыднёвік", застаючыся газэтай незалежнай, быў у апазыцыі да цяперашняй дыктатарскай улады. Ня бойцеся быць апазыцыйнымі!

*Віктар ШАЛКЕВІЧ, актор і бард (Горадня):*

– Мая добрая знаёмка Яні Паплаўска казала ў выпадках нейкіх пажаданьняў: "Нічога, нічога... Габрэі таксама з гузікаў пачыналі!". Дык вось і я "Тыднёвіку" жадаю, каб пачаўшы з малога, ён скончыў посьпехам і нажыў капіталу Біла Гейтса альбо Джорджа Сораса. Ды й мы разам зь ім.

*Аляксей КОЛЧЫН, старшыня Рады абласной асамблеі НГА:*

– Хачу пажадаць газэце паменей праблемаў фінансовых і кадравых, паменей непрыемнасьцяў ад улады. Хацелася б сустрэць тысячны нумар "Тыднёвіка" не праз 17 гадоў, а значна хутчэй, што магчыма, калі газэта пачасьціць выхад. Жадаю таксама пашырэньня кола чытачоў. Магчыма, што й мы, яе прыхільнікі, можам для гэтага зрабіць больш.

